№107 (1920)
Аўторак, 15 чэрвеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою…*
**Якуб КОЛАС**

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +13...+15, уначы — +11...+13, на працягу сутак — дождж; у Брэсце ўдзень — +16...+18, уначы — +16...+18, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — +13...+15, уначы — +13...+15, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — +11...+13, уначы — +8...+10, на працягу сутак — дождж; у Гомелі ўдзень — +13...+15, уначы — +14...+16, на працягу сутак — дождж; у Магілёве ўдзень — +12...+14, уначы — +10...+12, на працягу сутак — дождж.

*www.meteo.by*



80!

# Наш Быкаў

**Гэта — назва кнігі ўспамінаў пра Вялікага сына зямлі беларускай, якому 19 чэрвеня споўнілася б 80. Цэлы год яго ўжо няма сярод нас, але для ўсіх сумленных людзей нашай Айчыны і цывілізаванага свету ён жывы і вечна жывым застанецца. Бо сцвярджаў сваімі творамі, усім сваім жыццём да апошняга дыхання агульначалавечыя каштоўнасці: любоў да Бацькаўшчыны, высакародства і нязломнасць у барацьбе за перамогу Дабра, Справядлівасці, Гуманізму над сіламі зла.**

**Сваімі ўспамінамі аб незабыўным Чалавеку, народным пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву ў зборніку (укладальнік — Ганадзь Бураўкін, выдадзена ГА БТ "Кніга" 2004 г.) дзеляцца знакамітыя беларусы — Рыгор Барадулін, Зянон Пазьняк, Радзім Гарэцкі, Івонка Сурвілла, Барыс Кіт, Леанід Шчамялёў і многія іншыя асобы, вядомыя сваёй літаратурнай, мастацкай і грамадскай дзейнасцю, а таксама сябры з Літвы, Украіны, Расіі, Польшчы. Безумоўную цікавасць уяўляюць сабою і ўспаміны сястры пісьменніка Валянціны Уладзіміраўны Быкавай "Вася, Васіль, Васілёк"...**

**Публікуючы сёння ўступнае слова Генадзя Бураўкіна да кнігі "НАШ БЫКАЎ", а таксама артыкул Міколы Аўрамчыка (гл. стар. 3 і 4), рэдакцыя "Народнай волі" распачынае знаёміць сваіх чытачоў з шэрагам матэрыялаў гэтага унікальнага выдання.**



SOS!

# Галадоўка

## *Дзень трынаццаты...*

### У Марыны Багдановіч — арытмія, Валерыю Фралову зноў выклікалі «хуткую дапамогу»

Калі я ўвайшоў у кватэру на Казарменным завулку ў Мінску, дзе ўжо трынаццаты дзень праходзіць галадоўка дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Валерыя Фралова, Сяргея Скрабца, Уладзіміра Парфяновіча, а таксама далучыўшыхся да іх сямі грамадзян, адзіная жанчына сярод галадоўшчыкаў Марына Багдановіч займалася тыпова жаночай справай. Яна сушыла фенам мокрыя валасы, а потым, старанна расчэсваючы, рабіла прыгожую прычоску. Адзін з галадоўшчыкаў-мужчын спаў на падлозе, Валерыю Фралову ў чарговы раз мералі ціск (прычым рабіў гэта доктар Уладзімір Чырвоненка, які сам удзельнічае ў галадоўцы). Астатнія глядзелі тэлевізар, чыталі (як Уладзімір Парфяновіч) альбо, як Віктар Івашкевіч, дыхалі свежым паветрам на балконе. Дарэчы, стан здароўя адзінай жанчыны-галадоўшчыцы Марыны Багдановіч, у якой выяўлена арытмія і ішэмічная хвароба сэрца, а таксама дэпутата Валерыя Фралова, выклікаюць у медыкаў асаблівую заклапочанасць.

Марына Багдановіч тым не менш аптымізму не страчвае. Яна сама падышла да карэспандэнта "Народнай волі" і пачала распавядаць: *"У нас усё нармальна! Прыязджае наш сябар — фельчар вышэйшай катэгорыі Саша Валчанін з Жодзіна і наглядае за станам нашага здароўя."*

*"У параўнанні з першымі днямі галадоўкі,* — усё ж такі прызнае Марына, — *нам стала значна цяжэй. Увесь уік-энд я праляжала, амаль не ўстаючы. Паспрабуеш падняцца, — вядзе кудысьці ў бок, у вачах — чорныя кругі. Увага рассейваецца, пачынаеш гаварыць пра адно, потым пераключаешся на другое, думкі некуды сыходзяць... У сакавіку я праходзіла медагляд, усё, здаецца, было добра, нават ідэальна".*

Дарэчы, Марына размаўляе хутчэй і жвавей за іншых удзельнікаў галадоўкі, мужчыны — даволі павольна, робячы паміж сказамі вялікія паўзы. Ходзяць, як мне падалося, крыху вагаючыся з боку ў бок.

— **Пры якой умове спыніце галадоўку?** — пытаюся ў Марыны Багдановіч.

— Я ўчора гутарыла з людзьмі з Ліды, яны поўнасцю падтрымліваюць нас, кажуць, што мы робім вельмі значную справу, асабліва на фоне агульнацыянальнага балота. Гэта прыдае нам сілы. Я спадзяюся, што дэпутаты ўсё ж прымуць папраўкі ў Выбарчы кодэкс, нешта зменіцца і наконт утрымання Марыніча. Для мяне, як і для мільёнаў іншых людзей, самае галоўнае, каб не было рэферэндуму аб трэцім тэрміне Лукашэнкі. Так што пакуль будзем галадаць...

У нядзелю амаль усе мужчыны-галадоўшчыкі глядзелі футбол з чэмпіяната Еўропы, перажывалі за Францыю. Некаторыя нават ладзілі таталізатар. У гэты ж дзень дэпутату Фралову зноў выклікалі "хуткую дапамогу". *"У Валерыя Дзмітрыевіча назіраецца адмоўная дынаміка,* — каменціруе "Народнай волі" галадаючы доктар Уладзімір Чырвоненка. — *Асабліва што тычыцца яго гіпатаніі: у яго паніжаны артэрыяльны ціск. У Фралова таксама назіраецца брадыкардыя, ці запавольванне частаты сардэчных скарачэнняў. Усё гэта растлумачваецца тым, што арганізм галадае і таму эканоміць сілы. Гэты эканомны рэжым небяспечны тым, што парушаецца звычайнае цыркуляванне крыві і, адпаведна, пагаршаецца кровазабеспячэнне органаў. Генералу Фралову і іншым галадоўшчыкам рэгулярна здымаюць кардыяграмы, пасля першай Фралову быў пастаўлены дыягназ — прагрэсіруючая стэнакардыя. У астатніх яго кардыяграмах ёсць прызнакі парушэння кровазабеспячэння мышцы сэрца. Такое становішча патрабуе пастаяннага медыцынскага нагляду і прыёму медпрэпаратаў. Але тут існуе супярэчнасць — галадаючы арганізм не можа іх прымаць у тым аб'ёме, што і здаровы. Прагноз на бліжэйшыя дні даць цяжка: можа здарыцца ўсё, што заўгодна — сёння чалавек нармальны, здаровы, ён сам ходзіць, а заўтра яго няма".*

*"Дарэчы, ціск скача не толькі ў Фралова,* — сцвярджае медык. — *Гэта наглядаецца ў многіх з нас. За мінулы дзень у Марыны Багдановіч быў прыступ абвастрэння "мерцательной аритмии", у яе з'явіліся "ноющие і сжимающие" болі ў вобласці сэрца, у Віктара Івашкевіча чацвёрты дзень трымаецца павышаны артэрыяльны ціск — 150/210. Ён, гэты ціск, с цяжкасцю купіруецца медыкаментамі".*

У нядзелю, 13 чэрвеня, у Фралова, як сцвярджаюць галадоўшчыкі, "ціск наогул знізіўся": быў 60 на 90. Урачы "хуткай дапамогі" толькі развялі рукамі: а што вы хацелі? Вы ж галадаеце!...

У суботу з галадоўшчыкамі, як сцвярджаюць некаторыя яе ўдзельнікі, спецслужбы спрабавалі зрабіць правакацыю: да балкона Фралова падыходзіў нейкі чалавек на моцным падпітку, ён выкрыкваў "антыпрэзідэнцкія лозунгі". Пасля таго як ад яго "дапамогі" галадоўшчыкі адмовіліся, чалавек пайшоў у невядомым напрамку. Але пайшоў не адзін, а ў цесных абдымках людзей у штацкім, якія дзяжураць пад вокнамі кожны дзень. *"Відаць, яны спрабавалі справакаваць нас на нешта...,"* — лічыць Марына Багдановіч.

Душ галадоўшчыкі прымаюць па чарзе, часам прыходзіцца чакаць па паўтары гадзіны. Віктар Івашкевіч спіць на балконе.

Дэманстратыўную пасіўнасць і абыякавасць дэманструюць да галадаючых калег негаладаючыя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Людзі ў любы час могуць памерці, а яны прызначылі разгляд пытання аб унясенні змяненняў у Выбарчы кодэкс толькі на 22 чэрвеня.

Нягледзячы на гэта, галадоўшчыкі не адступаюць ад сваіх пазіцый. *"Спынім галадоўку толькі ў тым выпадку, калі будуць поўнасцю выкананы нашы ўмовы".*

Галадоўшчыкі лічаць, што аб'ектыўна асвятляюць іх акцыю "Народная воля", Радыё Свабода і некаторыя незалежныя выданні. Нацыянальны тэлеканал БТ прыязджае, усё запісвае на стужку, але потым нічога не паказвае. *"Кожнаму з удзельнікаў галадоўкі,* — жартуе М. Багдановіч, — *БТ-шнікі, мусіць, хочуць прэзентаваць па дзве касеты да крымінальнай справы". "Мы чакаем-чакаем, а вашых рэпартажаў усё няма і няма,* — звярнуўся да БТ-шных журналістаў Валерый Фралоў. — *Вы штодзённа, як на працу, прыязджаеце да дома №4 у Казарменным завулку, аднак мы ніяк не можам убачыць вынікі вашых здымак".*

У нядзелю да галадоўшчыкаў далучыўся жыхар Гомеля Віктар Курлукоў, бацька пяцярых дзяцей, у суботу — трое жыхароў Наваполацка, чатыры віцебчаніны і адна жыхарка Жодзіна.

Словы падтрымкі прыйшлі і з Амерыкі, з "Беларускага-амерыканскага задзіночання": *"Ад імя беларускай грамады Амерыкі вітаем вас як адважных і смелых людзей,* — сказана ў звароце, падпісаным Віталем Зайкам, Антонам Шукелойцам і Алесяй Кіпель, — *што падняліся на абарону свабоды і дэмакратыі ў Беларусі, якім неабыякавыя лёсы нашай агульнай Бацькаўшчыны. Выказваем вам усім падтрымку і салідарнасць у справе змагання супраць дыктатуры, парушэння правоў чалавека і знішчэння беларускай культуры. Жадаем вам поспеху ў высакароднай справе набліжэння часу, калі нашая Бацькаўшчына стане сапраўды незалежнай, дэмакратычнай, беларускай".*

А што ж зрабілі ў адказ улады? Нашы ўлады і іх прыдворнае тэлебачанне, на жаль, трымаюць да гэтага часу незразумелую паўзу. Мяркуючы па ўсім, акрамя кукіша нічога канструктыўнага ў іх кішэні пакуль што няма. Можа, яны вырашылі на любую вострую праблему, якіх у грамадстве становіцца ўсё больш і больш, рэагаваць, як той Рабіновіч, які на пытанне "Як здароўе?" заўсёды адказваў аднолькава: "Не дачакаецеся!"?

Але гэта не выхад, сп. чыноўнікі! Страусіная пазіцыя хаваць галаву ў пясок ніколі не прыводзіла да міру і спакою ў грамадстве. Выньце галаву з пяску, заклікаю я прадстаўнікоў улад, і выратуйце здароўе і жыццё Валерыя Фралова, Марыны Багдановіч і іншых галадоўшчыкаў. Заўтра можа быць позна!

**Алесь СІЛІЧ.**

*P.S. Сёння, 15 чэрвеня, ў 18-00 адбудзецца сустрэча дэпутатаў Валерыя Фралова, Уладзіміра Парфяновіча і Сяргея Скрабца з выбаршчыкамі. Адрас: Мінск, завулак Казарменны, дом 4, кватэра 73.*

# Поздравляем!

**В прошедшее воскресенье Василий Константинович СТАРОВОЙТОВ, дважды Герой Социалистического Труда, экс-руководитель легендарного хозяйства в Кировском районе, принимал поздравления по случаю своего восьмидесятилетия**



*Василий Старовойтов с супругой Валентиной во время юбилейных торжеств, посвященных его 80-летию.*



*Аксакал Нил Гилевич поздравляет аксакала Василия Старовойтова.*



*Лидер коммунистов Сергей Калякин вручает красные гвоздики Василию Старовойтову.*

**Фото photo.bymedia.net**

КОНКУРС

## Польшча — прыязная суседка Беларусі

**Пасольства Рэспублікі Польшч ў Рэспубліцы Беларусь аб'яўляе V конкурс для журналістаў "Польшча — прыязная суседка Беларусі". У конкурсе могуць прыняць удзел журналісты, якія да 20 снежня 2004 года вышлюць на адрас Пасольства РП копіі публікацый, а таксама радыё- і тэлематэрыялаў (з указаным месцам і датай публікацыі) за 2004 год на наступныя тэмы:**

- *Сучасная Польшча.*
- *Супольная гістарычная спадчына Беларусі і Польшчы.*
- *Значэнне членства Польшчы ў Еўрапейскім Саюзе для інтэграцыі Беларусі з Еўропай.*
- *Польскія органы самакіравання як падмурак рэгіянальнага дэмакратычнага развіцця.*
- *Роля свабодных сродкаў масавай інфармацыі і пазаўрадавых арганізацый у Польшчы.*
- *Польска-беларускае эканамічнае супрацоўніцтва.*

*Матэрыялы просім высылаць на адрас:*
**220034 Мінск, вул. Румянцава, 6 з паметкай: "Конкурс".**

*Узнагароды:*
першае месца — 250 долараў ЗША;
два другія месцы — 200 долараў ЗША;
тры трэція месцы — 150 долараў ЗША;
5 прэмій — 100 долараў ЗША;
10 прэмій — 50 долараў ЗША.

**Прэс-служба Пасольства.**

## Родныя зніклых беларускіх палітыкаў падтрымалі змагароў

Маці зніклых беларускіх палітыкаў выступілі са зваротам у падтрымку дэпутатаў "Рэспублікі", якія праводзяць бестэрміновую галадоўку разам з грамадзянамі, якія далучыліся да іх.

*"Патрабаванні гэтых людзей тычацца кожнага з нас: гэта ўнясенне змяненняў у выбарчае заканадаўства, якія дазволілі б нам выбіраць дэпутатаў, якія рэальна адстойваюць інтарэсы кожнага з нас",* — гаворыцца ў звароце.

Як зазначана ў дакуменце, дзеючы парламент на працягу ўсяго тэрміну працы ігнараваў праблему знікнення беларускіх палітыкаў. *"Нашы шматлікія звароты так і не былі пачутымі. Толькі некаторыя з дэпутатаў мелі мужнасць ставіць гэтае пытанне на парламенцкім узроўні, а сёння яны рызыкуюць сваім здароўем і нават жыццём дзеля правоў кожнага з нас",* — *пішуць родныя зніклых палітыкаў. Астатнім дэпутатам, гаворыцца ў звароце, "абыякавы лёс нашых выкрадзеных блізкіх, сваіх калег, што трымаюць галадоўку, як і нашы з вамі праблемы".*

*"На жаль, у нашай краіне быць сумленным палітыкам, які мае ўласнае меркаванне, — гэта рызыкаваць сабой",* — адзначаецца ў дакуменце. Аўтары звароту выказваюць салідарнасць з галадоўшчыкамі і засцерагаюць тых, хто стварыў гэтую *"крытычную сітуацыю": яны "павінны памятаць, што за свае дзеянні альбо бяздзеянне неўзабаве давядзецца адказваць — каму перад уласным сумленнем, а каму і перад судом".*

Зварот падпісалі маці Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Дзмітрыя Завадскага, а таксама жонка Віктара Ганчара.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**



Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету Народная воля (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

на 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету Народная воля (індэкс выдання)

ПВ | месца | літар

Кошт: падпіскі ___ руб.; пераадрасоўкі ___ руб. Колькасць камплектаў

на 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## Мы стрымаем сваё слова!

*Яшчэ раз хочам супакоіць сваіх чытачоў: не трывожцеся — "Народная воля" будзе выдавацца, нягледзячы на перашкоды.*

*250 нумароў, як мы і абяцалі, Вы сёлета атрымаеце.*

*Наша сіла — у вашай падтрымцы. Будзем разам і ў другой палове 2004 года.*

*Вас па-ранейшаму чакаюць у падпісных пунктах. Не спазніцеся. А каб аблегчыць вашу працу, мы ў чарговы раз друкуем абанементную картку. У любую вольную хвіліну запаўняеце — і на пошту альбо ў любы падпісны пункт "Белсаюздруку".*

**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі!**

ВНИМАНИЕ!

**По самым низким ценам (без стоимости почтовых услуг) минчане могут оформить подписку на "Народную волю" в пунктах подписки, в магазинах и киосках "Мингорсоюзпечать". При этом газету можно будет получать в любой удобной для вас торговой точке "Белсоюзпечати". Публикуем адреса пунктов, где можно оформить подписку "До востребования". Если есть какие-то вопросы — звоните по указанным телефонам.**

## И Вы сэкономите!

### Участок подписки «Белсоюзпечать»

| | |
|---|---|
| ул.Володарского, 16, комн. 302 | 227-88-41 |

### Пункты приема подписки:

| | |
|---|---|
| ул.Жуковского, 5, корп.1 | 224-32-03 |
| пр.Ф.Скорины, 113 | 264-22-91 |
| ул.Романовская Слобода, 9 | 220-83-04 |
| ул.О.Кошевого, 8 | 230-29-20 |

### Магазины

| | |
|---|---|
| №1 ул.Жуковского, 5 | 224-03-76 |
| №2 пр.Ф.Скорины, 44 | 284-83-59 |
| №3 пр.Ф.Скорины, 76 | 232-46-23 |
| №4 ул.Ленина, 15 | 227-11-92 |
| №6 ул.Филимонова, 1 | 235-63-11 |
| №7 ул.Я.Коласа, 69 | 288-30-20 |
| №8 ул.Сурганова, 40 | 232-45-10 |
| №9 пр.Рокоссовского, 140 | 247-30-15 |
| №10 бульвар Шевченко, 7 | 233-74-88 |
| №11 пр.Пушкина, 77 | 255-80-71 |
| №12 ул.Кижеватова, 80 | 278-77-61 |
| №13 ул.Калиновского, 82, корп.2 | 264-06-42 |
| №14 ул.Володарского, 22 | 227-75-55 |
| №15 ул.Танковая, 16 | 223-82-39 |
| №16 ул.В.Хоружей, 24 | 234-27-25 |
| №17 ул.Некрасова, 35 | 231-03-28 |
| №18 станция метро "Площадь Победы" | 284-31-06 |
| №19 пр.Машерова, 51, корп.1 | 223-81-66 |
| №20 ул.Есенина, 16 | 271-87-21 |
| №21 станция метро "Пушкинская" | 255-57-20 |
| №22 ул.Илимская, 10, корп.2 | 243-16-83 |
| №23 ул.Славинского, 39 | 264-36-33 |
| №24 ул.Жилуновича, 31 | 245-05-74 |
| №25 ул.К.Маркса, 21 | 227-08-52 |

### Киоски

- №2 Лингвистический университет, ул.Захарова, 21
- №18 Технологический университет, ул.Свердлова, 13/4
- №38 Педагогический университет, ул.Советская, 18
- №78 г-ца "Юбилейная", пр. Машерова, 19
- №95 Министерство архитектуры и строительства, ул.Мясникова, 39
- №136 станция метро "Площадь Я.Коласа", выход к Академии физвоспитания
- №187 г-ца "Беларусь", ул.Сторожевская, 15
- №189 Автовокзал "Московский"
- №198 Экономический университет, пр. Партизанский, 26
- №209 проходная МАЗа, ул.Социалистическая, 2
- №228 Университет культуры, ул.Рабкоровская, 17
- №232 Минский завод холодильников, пр. Машерова
- №245 Больница скорой помощи, ул.Кижеватова, 56
- №259 Минский государственный торговый колледж, ул.Восточная, 183
- №260 пр.Ф.Скорины, 169
- №262 г-ца "Планета", пр. Машерова, 31
- №298 пр.Машерова, 75/1
- №302 9-я больница, ул.Семашко, 8
- №313 Слободской проезд, 24

## Жэнева вернецца да «беларускага пытання»

На 92-й сесіі Міжнароднай канферэнцыі працы, што праходзіць у Жэневе, "беларускае пытанне" не разглядалася. Аб гэтым паведаміў лідэр Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) **Аляксандр ЯРАШУК**, які вярнуўся з Жэневы.

Сесія праходзіць з 1-га па 17 чэрвеня. Лідэры незалежнага прафсаюзнага руху А.Ярашук, Аляксандр Бухвостаў і Генадзь Фядыніч, якія не ўвайшлі ў склад афіцыйнай беларускай дэлегацыі, удзельнічалі ў працы сесіі ў складзе дэлегацыі Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў.

Як патлумачыў А.Ярашук, беларуская сітуацыя не разглядалася ў Жэневе таму, што пакуль не гатовае афіцыйнае заключэнне камісіі МАП па расследаванні фактаў парушэння правоў прафсаюзаў у Беларусі, якая наведала Мінск у красавіку. Мяркуецца, што заключэнне будзе гатова восенню.

Ярашук таксама паведаміў, што напрыканцы гэтага месяца, прыкладна 25—27 чэрвеня, Беларусь наведае аналагічная дэлегацыя Еўрапейскай камісіі (групы па расследаванні фактаў парушэння правоў беларускіх прафсаюзаў былі створаны Еўракамісіяй і МАП практычна адначасова, на пачатку 2004 года. — **БелаПАН**). Заключэнне гэтай камісіі, паводле даных Ярашука, будзе разглядацца ў Бруселі напрыканцы ліпеня.

Калі эксперты МАП і Еўракамісіі ў сваіх справаздачах пацвердзяць факты парушэння правоў прафсаюзаў, можа быць распачата працэдура пазбаўлення Беларусі прэферэнцый у гандлі з краінамі Еўрапейскага Саюза.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

ПУЛЬС

## На ўсіх прыпынках Мінска будуць новыя інфармацыйныя табло

Да канца гэтага года мінскае прыватнае унітарнае прадпрыемства "Праспект-прэс" плануе вырабіць і ўстанавіць за свой кошт на ўсіх 600 прыпыначных пунктах сталіцы новыя табло з інфармацый аб маршрутах грамадскага транспарту.

Старыя таблічкі, якія зараз размешчаны на большасці прыпынкаў, дырэктар "Праспекта-прэс" Юрый Шпіт у сваім выступленні на савеце назваў "атавізмам" і "адзіным элементам, які выклікае некаторую эстэтычную незадаволенасць".

**Лавінія АРЭШКА.**

## Урон ад начных замаразкаў

*У Ганцавіцкім і Ляхавіцкім раёнах Брэсцкай вобласці працуюць камісіі па надзвычайных сітуацыях. Яны вызначаюць матэрыяльны ўрон, нанесены гаспадаркам начнымі замаразкамі.*

Паводле звестак прэс-службы МНС, замаразкі (да мінус двух градусаў) назіраліся тут 10 чэрвеня. У выніку ў дзесяці гаспадарках Ляхавіцкага раёна пашкоджана каля 600 гектараў пасеваў: 248 гектараў кукурузы, 46 — грэчкі, 44 гектары бульбы, а таксама пасевы пшаніцы, капусты і цукровых буракоў. У 12 гаспадарках Ганцавіцкага раёна знішчана 246 і пашкоджана 1600 гектараў пасеваў кукурузы, цукровых буракоў, бульбы, азімага жыта і аўса.

Акрамя вызначэння ўрону, спецыялісты павінны таксама вызначыць аб'ём дапамогі, якую неабходна аказаць пацярпелым гаспадаркам.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Наступ ВІЧ-інфекцыі

*З пачатку года ў Мінску зарэгістравана 57 выпадкаў заражэння ВІЧ-інфекцыяй.*

Як паведаміла загадчыца аддзела прафілактыкі СНІД Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Лілія Мялешка, на сёння Мінск з'яўляецца другім пасля Гомельскай вобласці па ўзроўні распаўсюджанасці ВІЧ-інфекцыі. Так, у Гомельскай вобласці зарэгістравана 3 тысячы 399 выпадкаў, у Мінску — 836 выпадкаў, у тым ліку 57 выпадкаў у сталіцы выяўлена з пачатку 2004 года. Паводле апошніх звестак, усяго ў Беларусі афіцыйна зарэгістравана 5816 ВІЧ-пазітыўных.

Пераважная большасць інфіцыраваных — маладыя людзі ва ўзросце 20—29 гадоў — 69,6 працэнта ад агульнай колькасці захварэлых.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Лечаць пчаліным ядам

*Урачы Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы актыўна выкарыстоўваюць у лячэнні сваіх пацыентаў пчаліны яд.*

Як расказала ўрач Алена Шостак — спецыяліст у галіне апітэрапіі, гэты метад лячэння з нетрадыцыйных пераведзены ў разрад традыцыйных дзякуючы назапашанаму вопыту народнай медыцыны і станоўчым вынікам, атрыманым ужо ў сценах дзяржаўных клінік. Ён рэкамендаваны найперш неўралагічным і кардыялагічным хворым.

Для лячэння выкарыстоўваюцца звычайныя беларускія пчолы, для развядзення якіх на тэрыторыі бальніцы ёсць свой гадавальнік пчолаў з 40 вулляў. Пчалу прыкладаюць хвораму ў раён наднырачніка і крыху прыціскаюць, каб выпусціла джала — у гэтым і заключаецца лячэбны сеанс. Курс лячэння складае некалькі тыдняў. За гэты час выкарыстоўваецца каля сотні пчол.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

## Геральдычныя фантазіі афіцыйна дазволены

У хуткім часе працоўныя Віцебшчыны рушаць на заваёву вышыняў "рынкавага сацыялізму" пад уласнымі сцягамі. На пасяджэнні аблвыканкама прынята рашэнне аб'явіць грамадскі конкурс на стварэнне герба і сцяга вобласці. Час прыспешвае, бо амаль сорак населеных пунктаў Віцебшчыны ўжо распрацавалі і зацвердзілі сваю мясцовую сімволіку. Усе гэтыя гербы і сцягі прайшлі ўжо геральдычную экспертызу.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# БТ стане болей

*У краіне ствараецца яшчэ адзін тэлевізійны канал*

Новы тэлепрадукт будзе мець назву "Беларусь ТВ". Ён стане першым спадарожнікавым каналам, і яго перадачы будуць транслiравацца на краіны блізкага і далёкага замежжа.

Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, вяшчанне канала запланавана на канец 2004 — пачатак 2005 года. "Беларусь ТВ" плануецца абсталяваць найноўшай тэхнікай, дзеля рэалізацыі праекта вырашана запрасіць высокапрафесійны персанал. Новы канал будзе створаны ў сістэме Белтэлерадыёкампаніі.

Чым выклікана такая паспешнасць? Магчыма, уладам патрабуецца падправіць "подмоченную" рэпутацыю, стварыць рэкламна-вітрынны імідж Беларусі ў свеце... Дарэчы, падобная практыка ўжо існавала. У часы такога адыёзнага ідэолага, як Заметалін, на Беларускім тэлебачанні ствараліся прапагандысцкія праграмы пра "шчаслівае жыццё беларусаў" для трансляцыі на расійскіх рэгіянальных каналах. Зараз ахоп тэрыторый значна павялічыцца. Плануецца, што глядзець "Беларусь ТВ" будуць не толькі ў Расіі, але і ва Украіне, у краінах Прыбалтыкі, Усходняй Еўропы і нават ў ЗША.

Відавочна, што на стварэнне канала спатрэбіцца нямала грошай. Спецыялісты кажуць, што новы тэлепраект будзе каштаваць мільёны долараў. Для таго каб пачаў працаваць "Беларусь ТВ", недастаткова абсталяваць яго найноўшай тэхнікай, неабходна запусціць у космас свой спадарожнік альбо купіць месца на спадарожніку, які працуе на арбіце.

Дарэчы, як і АНТ, "Беларусь ТВ" будзе вяшчаць цалкам на рускай мове. Цікава, для якіх беларусаў замежжа ён разлічаны?

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Россия готова дать миллиард. Но у Беларуси карман вдвое шире

**Макар ВОЛКОВ**

На встрече с журналистами 11 июня, посвященной Дню России, Чрезвычайный и Полномочный посол Российской Федерации в Беларуси Александр БЛОХИН уточнил условия соглашений, достигнутых между нашими странами на этой неделе.

Так, комментируя итог почти двухлетнего спора о праве собственности на "Запад-Транснефтепродукт", Александр Блохин назвал условия, на которых Беларусь все же согласилась признать его собственностью соседней страны. *"Российская сторона пообещала довести поставки нефти до 18 млн. тонн в этом году, так же как и в следующем, и планирует проработать этот вопрос и на более отдаленную перспективу",* — сообщил российский посол. По его словам, достигнута также договоренность практически в два раза против нынешнего уровня поднять тарифы на прокачку нефтепродуктов через территорию Беларуси.

Подписанный газовый договор, по словам Александра Блохина, ни в коем случае не говорит о том, что Россия дала неофициальное "добро" на третий срок для Лукашенко, а просто отражает достигнутое взаимопонимание между "Газпромом" и "Белтрансгазом" как хозяйствующими субъектами. *"Совершенно неправомерно переносить этот спор в политическую плоскость",* — подчеркнул Блохин, отметив при этом, что Россия не отказалась от своего намерения предоставить Беларуси *"газовый кредит"*.

Кроме того, отметил посол, все еще существует возможность введения российского рубля в качестве единого платежного средства на территории Беларуси с 1 января 2006 года. В этом случае, по его словам, общая сумма финансовых компенсаций со стороны России могла бы достичь 1 млрд. долларов (в то же время общая сумма компенсаций от России, на которую рассчитывает Беларусь, оценивается в 2,088 млрд. долларов). В частности, компенсация за изменение условий взимания НДС может составить 600 млн. долларов. Компенсация за потерю доходов от права эмиссии — 150—160 млн. долларов. Все остальное — стабилизационные кредиты, компенсация затрат на переоценку и переоформление ценных бумаг и облигаций, номинированных в белорусских рублях, и другое.

При этом, подчеркнул посол, бизнесмены обеих стран выиграли бы, прекратив тратить средства на конвертацию валют наших государств. По его данным, только белорусский бизнес на этой операции теряет около 160 млн. долларов ежегодно. А взамен Беларусь получила бы валюту, в стабильности которой никто не сомневается, отметил Блохин. По его словам, механизм перехода на российский рубль вполне надежен и четко проработан российскими финансовыми ведомствами.

Говоря о наболевшем — о работе белорусской таможни и претензиях со стороны российских перевозчиков, — Александр Блохин напомнил, что не так давно глава Государственного таможенного комитета Беларуси Александр Шпилевский лично заверил его, что проверка и досмотр грузов, следующих через белорусскую границу, будут вестись по международным нормам. То есть грузы будут проверяться только в случаях, когда это реально необходимо. Однако, отметил Блохин, судя по статистике первого квартала, *"нельзя констатировать улучшения в этом вопросе"* — общая сумма конфиската составила 23,2 млн. долларов, и если и дальше таможня будет работать такими темпами, то к концу года подберется к 92 млн. долларов, что выше объема конфиската 2003 года. *"Пока у нас есть основания проявлять беспокойство по этому поводу",* — констатировал российский посол.

Анализируя в целом белорусско-российские отношения и перспективы строительства союзного государства, А.Блохин отметил: *"Различия в экономической и правовой базе Беларуси и России не способствуют строительству союзного государства, а скорее создают новые проблемы. Может быть, целый ряд политических проблем, возникших в наших отношениях, являются производными от таких разновекторных экономических систем". "Нельзя создать союзное государство, если не будет единой экономической базы",* — заключил российский дипломат.

*("Белорусские новости".)*

СУМНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Труна на трактары

Яна пазваніла мне надвячоркам. Калі гаварыла, голас быў поўны жалю.

— Прабачце, я не магу назваць свайго імя. Баюся. Але і маўчаць пра тое, што ў нас робіцца, не магу. Хачу, каб людзі ведалі пра гэта і каб тыя, каму належыць улада, не паўтаралі падобных памылак. Вельмі ж крыўдна нам і балюча...

У Тараса Пятровіча памерла жонка — адзіны ва ўсім свеце блізкі чалавек. Была яна родам не з нашай вёскі. Прыйшла замуж не тое каб з суседняга сяла — кіламетраў за сем. Яшчэ калі была здаровая, але, відаць, прадчувала хуткую канчыну, усё прасіла ў Тараса Пятровіча:

— Ты ж, як памру, завязі мяне на нашы могілкі, не хавай тут. Дарога недалёкая, а мне ад думкі, што буду ляжаць са сваімі роднымі, лягчэй паміраць.

— От, пра што ты гаворыш! Ніхто не ведае, калі памрэ. Можа, ты мяне пераўжывеш, — казаў муж.

Марыя Сямёнаўна маўчала. Але потым, калі ўжо зусім занемагла, зноў паўтарыла свой запавет, сваю апошнюю просьбу: пахавай каля радні. І ён паабяцаў.

Памерла Марыя Сямёнаўна ў бальніцы. Муж пайшоў у кантору мясцовага калгаса папрасіць машыну, каб прывезці нябожчыцу. Машыну далі. Вядома, за адпаведную плату.

Сабралі жанчыну ў апошні шлях, зрабілі ўсё неабходнае, што робяць у такіх выпадках, і Тарас Пятровіч зноў пайшоў у калгасную кантору прасіць машыну, каб завезці нябожчыцу на могілкі. Старшыні ў канторы не было, а дыспетчар такое складанае пытанне адна вырашыць не магла. У Тараса Пятровіча на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі былі яшчэ справы, звязаныя з пахаваннем, і ён вырашыў прыйсці ў кантору пазней. І пазней таксама не пашанцавала: старшыні не было. Але дыспетчар звязалася з ім, расказала пра клопат вяскоўца і атрымала "кіраўніцтва да дзеяння": "Ніякіх машын! Ні сам, ні яго жонка ў калгасе не працавалі. Няхай звяртаюцца ў тыя калектывы, адкуль пайшлі на пенсію". Аб гэтым кабета і паведаміла няшчаснаму старому ўдаўцу. Больш гаварыць на гэтую тэму сэнсу не было, і Тарас Пятровіч пайшоў у сваю вёску, якая размешчана за некалькі кіламетраў ад цэнтра калгаса. Крочыў па вясновай дарозе. Над ёй на сонечных промнях віселі жаваранкі, пахла маладой травой. Але чалавек не бачыў усёй гэтай прыгажосці. Боль адзіноты, крыўда, што ніхто не хоча зразумець яго, дапамагчы ў такой важнай справе — па-людску пахаваць нябожчыцу, да болю сціскала сэрца. "Каб былі дзеці, усё было б прасцей. Яны маладыя, дужыя, хутчэй дзе-небудзь знайшлі б машыну, — са скрухай думаў няшчасны чалавек. — А так цяпер рабі што хочаш. Нібыта ў якой пустыні — хоць крычы, хоць плач — ніхто не пачуе".

Але Тараса Іванавіча пачулі. Калі ён расказаў аб сваіх безвыніковых паходах у кантору вяскоўцам, тыя разам пачалі шукаць выйсця. І знайшлі. Адзін чалавек — добрая і чулая душа — які працаваў у калгасе трактарыстам, прапанаваў сам дапамогу.

— Я разумею, што гэта дзікунства, але калі няма іншага выйсця, то давайце паставім труну на трактарны прычэп і я завязу на могілкі. Не на плячах жа яе несці сем кіламетраў. Ды і хто панясе, калі ў вёсцы засталіся, лічы, адны старыя ды нямоглыя.

Так і зрабілі. Паставілі труну на прычэп і павезлі. Толькі спыніліся, як пад'ехалі міліцыянеры, відаць, пацікавіцца, чаго трактар заехаў на могілкі. Служба такая, усім цікавіцца. Але калі маладыя хлопцы ўбачылі на трактары труну, ім, відаць, стала не па сабе, і яны хуценька паехалі.

Не па сабе было ўсім, хто бачыў гэты дзікі малюнак. Сорамна, нібыта кожны з жывых мае нейкае дачыненне да гэтага дзікунства. І страшна, як той жанчыне, што званіла мне.

— Разумееце, — з жалем казала яна, — у нас жа ў вёсцы амаль усе старыя. Учора пахавалі Марыю Сямёнаўну, а заўтра, можа, мая чарга прыйдзе. І як падумаю, што буду ехаць у апошні шлях на трактарным прычэпе... Няўжо мы, старыя, не заслужылі лепшых адносін да сябе? Калі жыць не можам па-людску, то няхай бы хоць пахавалі належным чынам. А то нібы якую жывёлу — у трактары...

Больш гаварыць ёй не далі слёзы...

Я доўгі час хадзіла пад уражаннем ад пачутага, а потым вырашыла паехаць да таго старшыні калгаса. Але перш пазваніла. І зрабіла вывад, што ехаць і гаварыць няма сэнсу. Усё стала зразумела і з тэлефоннай размовы.

— А яму нават і не трэба было ісці да мяне прасіць машыну. Ён у нашым калгасе не працаваў, нябожчыца таксама, дык якія могуць быць размовы? Няхай звярнуўся б туды, дзе працавалі. Ды ў мяне на той дзень і бензіну не было ні кроплі. Ведаеце, якое цяпер становішча ў калгасах.

Ведаю. Спагадаю. Веру: магло так стацца, што ў калгасе не было бензіну, што старшыні, змучанаму бясконцымі клопатамі аб хлебе надзённым, у прамым сэнсе гэтага слова, калі і тэхніка зношана, і гаручага не хапае, было не да пахавання чужой жанчыны. Але ведаю і другое. Не дай Бог гэта была б яго сваячка, знайшоўся б і бензін, і машына. А так чужая... Бедная, адзінокая, хоць і працавала ўсё жыццё не пакладаючы рук, як і ўсе з яе пакалення. То вайна, то разруха, то знясільваючая работа за пустыя працадні. (Марыя Сямёнаўна ўсё жыццё працавала ў суседнім калгасе. Замуж за Тараса Пятровіча прыйшла ў немаладым веку, калі памерла яго першая жонка.) Гэтае пакаленне не бачыла прасветлай гадзіны за работай, адкладваючы з небагатага заробку нейкія рублі "на чорны дзень". А потым іхнія грошы без агню і полымя згарэлі на ашчадных кніжках. І людзі засталіся без дароўя, без усялякай падтрымкі, без надзеі, што нешта зменіцца да лепшага. Ім цяпер няма на каго спадзявацца. Хіба на такіх жа няшчасных, як самі, што хоць на трактары завязуць нябожчыка на могілкі.

Не мне вырашаць, але, думаецца, было б нядрэнна, каб у кожным калгасе стварылі нейкі запас бензіну менавіта для такіх выпадкаў. Зразумела, за пэўную плату. Каб чалавек у горкія мінуты развітання з блізкім не бегаў безвынікова па ўсякіх там канторах і выпрошваў-вымольваў транспарт, а быў упэўнены: яму дапамогуць без валакіты і нервознасці. І няважна, дзе нябожчык працаваў, дзе жыў. Смерць напаткала яго ў гэтых мясцінах, значыць, мы павінны абысціся з ім па-людску.

Нікому з нас не суджана ведаць, калі і як памром, хто і дзе будзе хаваць. Але думаць пра гэта нялішне было б кожнаму. І простаму чалавеку, і таму, хто ўскарабкаўся па службовай лесвіцы вышэй. Перад смерццю ўсе роўныя. І сэрца кожнага чалавека сціскаецца, бачачы чужое гора. А калі не сціскаецца, то якое там сэрца?..

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

## Выстаўляюцца на продаж пакеты акцый

Фонд "Гомельаблмаёмасць" правядзе 9 ліпеня конкурс па продажы пакетаў акцый, якія належаць дзяржаве, адкрытых акцыянерных таварыстваў.

На конкурс выстаўляюцца пакеты акцый 22 прадпрыемстваў Гомельскай вобласці. Пераможцам можа стаць пакупнік, які прадставіць найлепшыя прапановы па прыярытэтных умовах конкурсу. Сярод такіх прыярытэтных умоў — інвестыцыі ў тэхнічнае пераўзбраенне прадпрыемстваў, захаванне профілю дзейнасці і рабочых месцаў.

**Аляксей АРЭШКА.**

## «Кветкі жыцця» — на месцы ракет

Першая чарга абласнога рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра "Ветразь" уведзена ў эксплуатацыю ў Пастаўскім раёне Віцебшчыны. Адміністрацыйны будынак, сталовая, жылыя карпусы на 140 месцаў ды іншыя збудаванні "Ветразя" з'явіліся там, дзе раней была расквартаравана вайсковая часць ракетных сіл Міністэрства абароны СССР.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Гаспадарчы суд Гомельскай вобласці пачаў разгляд справы аб незаконнасці ўстаноўкі касавых апаратаў у маршрутных таксі

Гаспадарчы суд Гомельскай вобласці 10 чэрвеня пачаў разгляд справы аб незаконнасці ўстаноўкі касавых апаратаў у маршрутных таксі.

Як паведаміў БелаПАН прадстаўнік істца намеснік старшыні Гомельскага абласнога савета прафсаюзаў "Садружнасць" **Віктар ЯЛФІМАЎ,** адказчыкам па справе выступае дзяржаўная ўстанова "Транспартная інспекцыя" Міністэрства транспарту і камунікацый, а істцом — індывідуальны прадпрымальнік **Уладзімір ГОЛУБ.**

Прадстаўнік істца перакананы ў выйгрышы гэтай справы, разгляд якой мае быць завершаны на наступным тыдні.

Ён назваў "недапрацаваным" працэс аснашчэння маршрутных таксі касавымі апаратамі. "Мінтранс патрабуе ўстанавіць іх на маршрутках, хоць Дэкрэт кіраўніка дзяржавы № 17 ад 25 ліпеня 2003 года не прадугледжвае такога для прадпрымальнікаў, якія выплачваюць адзіны дзяржаўны падатак. Больш за тое, згодна з інструкцыямі, падатковыя інспектары патрабуюць прад'яўлення не самога касавага апарата, а толькі накладной на яго набыццё", — сказаў В.Ялфімаў.

Паводле яго слоў, няпростым аказалася і практычнае прымяненне Указа кіраўніка дзяржавы № 140 ад 22 сакавіка 2004 года. *"Справа ў тым, што дакумент устанавіў вялікі збор з уладальнікаў транспартных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца ў камерцыйных мэтах, калі з дня ўвозу аўтамабіляў на мытную тэрыторыю не прайшло два гады",* — адзначыў В.Ялфімаў. Паводле яго слоў, для рэалізацыі гэтага *"карыснага і сур'ёзнага"* дакумента Міністэрства па падатках і зборах 15 сакавіка гэтага года выдала інструкцыю, *"задні днём"* надаўшы ўказу сілу і падпарадкаваўшы яго юрысдыкцыі ўладальнікаў усіх транспартных сродкаў, увезеных у Беларусь пасля 25 красавіка 2002 года.

*"У Гомелі ў сувязі з гэтым указам прадпрымальнік скончыў жыццё самагубствам, калі аказалася, што яму прыйдзецца заплаціць 7 тысяч еўра за набыты мікрааўтобус",* — сказаў В.Ялфімаў.

Паводле яго слоў, Мінтранс і Міністэрства эканомікі звярнуліся ў Савет міністраў наконт таго, што гэты ўказ не можа мець зваротнай сілы. *"У адрас Міністэрства па падатках і зборах падобныя звароты накіравала кіраўніцтва Гомельскага і Магілёўскага аблвыканкамаў",* — заўважыў В.Ялфімаў.

**Марат ГАРАВЫ.**

ЗАДУМАЕМСЯ...

# Протянем руку молодым

*На сегодняшний день почти половина жителей Земли моложе 25 лет. Около 20% из них составляют подростки в возрасте от 10 до 19 лет, причем 87% живут в развивающихся странах. От уровня их образования и состояния здоровья, готовности взять на себя обязанности взрослых, от той поддержки, которую оказывает им семья, общество, государство, зависит будущее всех нас.*

Между тем примерно 238 миллионов молодых людей сталкиваются с проявлениями крайней бедности. Многие вынуждены жить в нужде, оставшись без родителей либо по другим причинам: гуманитарные катастрофы, миграция, инвалидность, распад семьи... Более 13 миллионов детей в возрасте до 15 лет потеряли одного или обоих родителей из-за СПИДа. Многие берут на себя заботу о младших детях в семье, живут на улице. 57 млн. юношей и 96 млн. девушек в возрасте от 15 до 24 лет в развивающихся странах не умеют ни читать, ни писать.

Каждые 14 секунд на планете появляется новый ВИЧ-инфицированный молодой человек (среди них все больше и больше женщин). На молодежь приходится половина новых случаев ВИЧ-инфекции в глобальном масштабе. Тем не менее многие молодые люди не могут защитить себя от ВИЧ. Во многих странах обсуждение сексуального поведения является запретной темой, вследствие чего большое число молодых людей не имеет необходимой информации или навыков. Для снижения подростковой беременности и обуздания эпидемии ВИЧ/СПИД необходимо предоставлять соответствующую возрасту информацию о сексуальности. Однако многие родители не знают, как донести эти знания до своих детей. Молодые люди получают информацию о репродуктивном здоровье из некомпетентных источников, что приводит к наличию у большинства из них неадекватных знаний.

Несвоевременное оказание родителями, обществом и государством помощи молодым людям будет иметь серьезные последствия в будущем как на уровне личностей, так и на уровне общества: преждевременная смерть, более высокие темпы распространения инфекций, увеличение числа нежелательных беременностей, замедление экономического роста, усиление гендерного неравенства.

Немало проблем и в Беларуси. 81,9% всех зарегистрированных случаев ВИЧ-инфекции приходится на возрастную группу 15—29 лет. В 2002 году 9,6% абортов были сделаны молодым женщинам в возрасте от 15 до 19 лет и 25,8% — женщинам в возрасте 20—24 лет. Но получают ли они нужную информацию о ВИЧ и абортах, другую помощь?

В отчете ЮНФПА о состоянии народонаселения мира за 2003 год подчеркивается, что инвестиции в здоровье и образование молодежи являются одними из самых эффективных с точки зрения отдачи. Успех и счастье более 1,2 млрд. подростков, которые вот-вот станут совершеннолетними, зависят от возможностей и ресурсов, которыми они располагают уже сегодня. У них должны быть возможности для ответственного и здорового выбора, а также доступ к информации и услугам. Инвестиции в благосостояние крупнейшего поколения молодежи непременно дадут преимущества будущим поколениям.

Фото photo.bymedia.net

## У нашага народа даўно ёсць свая нацыянальная ідэя

Апошнім часам зноў у Беларусі загаварылі пра нацыянальную ідэю, а дакладней, пра яе пошук і выпрацоўку. Аб такіх намерах заявілі нават улады. Лёгка здагадацца, што яны могуць прапанаваць народу.

У беларусаў даўно ёсць свая нацыянальная ідэя і не трэба нічога шукаць. Яе сфармуляваў наш выдатны пясняр Янка Купала. Народ зразумеў свайго Прарока, душой і сэрцам успрыняў яго заклік "Жыве Беларусь!". У гэтых двух словах увасобілася менавіта нацыянальная ідэя. Яна стала ўсеабдымнай, вызначальнай. Яна аб'яднала ўсе бакі шматграннага чалавечага жыцця, ад вялікай палітыкі да побыту. Наколькі яна шырокамаштабная, жывучая, сведчыць і шчырае стаўленне да футбольнай каманды "Дынама". Што рабілася на стадыёне, на вуліцах Мінска, калі "Дынама" стала чэмпіёнам Савецкага Саюза, — трэба было бачыць! Неверагодны трыумф! Неверагодная агульная радасць дзесяткаў тысяч мінчан. Радасць усёй Беларусі.

Хіба можна задушыць самае важнае, самае запаветнае, самае дарагое, чым жыве народ? Як ні старайся, не атрымаецца. Яно праяўляецца і сёння ў масавых акцыях, на розных мерапрыемствах. Сведчанне таму — нядаўнія тэнісныя матчы на Кубак Дэвіса з камандамі Расіі і Аргенціны. Колькі энтузіязму, жадання бачыць сваіх пераможцамі, колькі падтрымкі ім было з боку простых людзей! І бязмерная радасць перамогі. Гледачы на кожнай з гульняў бесперапынна скандзіравалі "Беларусь! Беларусь!" Хіба не паказальна? Хіба не нацыянальны гонар, не нацыянальная ідэя валодалі сэрцамі людзей? Нават памкненне заглушыць дружныя воклічы "Беларусь!" спевам нязграбнай песенькі са словам "Белоруссия" праз дынамікі — не далі выніку. Голас народа аказаўся мацнейшы.

Так што беларуская Нацыянальная ідэя жыве ў сэрцах. Яна прысутнічае ва ўсім — у грамадскім жыцці, у мове, гісторыі, культуры, спорце, эканоміцы, навуцы... "Жыве Беларусь!" гучыць у прыватных размовах, замест прывітанняў пры сустрэчах і развітанняў. Ідэя нацыянальнага Адраджэння неўміручая, бо яна — народная.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

## Загінула 555 чалавек

За мінулы тыдзень у Беларусі адбылося 238 пажараў, ахвярамі якіх сталі 5 чалавек. На працягу тыдня пажарамі знішчана 68 пабудоў, 9 адзінак тэхнікі, 5 тон кармоў. Агнём пашкоджана 154 пабудовы, 10 адзінак тэхнікі. Нанесены ўрон складае 150 млн. рублёў.

З пачатку года ў краіне адбылося 5076 пажараў. У выніку іх загінулі 555 чалавек, у тым ліку 29 дзяцей. У параўнанні з мінулым годам колькасць пажараў паменшылася на 13%, а гібель людзей падчас пажараў скарацілася на 12%.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Навошта ім аўтамат, пісталет і патроны?

У Брэсце супрацоўнікі міліцыі пры збыце аўтамата "АКС-74", пісталета "ТТ" і 30 патронаў калібру 5,45 і 4 — 7,62 мм затрымалі трое мясцовых жыхароў, усе непрацуючыя.

Пры правядзенні вобыску ў кватэры аднаго з затрыманых было канфіскавана яшчэ 549 патронаў рознага калібру і прыстасаванне для бясшумнай стральбы да неўстаноўленай зброі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

